# Маладзёвы весьнік

№2(2) Верасень 1997 Выданьне Маладога Фронту


## НАПЯРЭДАДНІ ВЯСНЫ-96...

“Сёньня толькі праз пошук новых нестандартных падыходаў для рэалізацыі нацыянальнай ідэі, праз далучэньне новых людзей і праз мэтадычную і самаахвярную працу кожнага сябра ды прыхільніка БНФ мы можам разьлічваць на посьпех.

Скончыўся час, калі можна было спадзявацца, што аб‘ектыўныя працэсы кананьня камуністычнае сістэмы прынясуць нашай Бацькаўшчыне незалежнасьць і дэмакратыю, вырашыўшы ўсе нутраныя праблемы беларускага грамадзтва, абумоўленыя перш за ўсё наступствам 200-гадовай акупацыі.

Цяпер, у неспрыяльных умовах хістаньня грамадзтва ўсяе Усходняе Эўропы ўлева, нам трэба ствараць грамадзянскую апазіцыю прамаскоўскім і пракамуністычным сілам, якія маюць уладу на Беларусі ды прагнуць рэваншу на абшарах усяго былога Савецкага Саюзу.”

**Вячаслаў Сіўчык.**
Бюлетэнь
МГА БНФ “Адраджэньне”
№1, Студзень, 1996 год

## У НАШЫМ НУМАРЫ:



**Будзь разам з намі!**

*С. Сокалаў-Воюш*

# ФРОНТ, ФРОНТ, ФРОНТ...

*Радзіма, сьветлы вобраз твой –*
*Нязменны наш маяк.*
*Хай цемра ладзіць нам канвой.*
*Я добра бачу, як*
*Працяг суседняга пляча*
*Жыве ў маім плячы.*
*І людажэрам-крумкачам*
*Нас не перамагчы.*

*Фронт, Фронт, Фронт,*
*Ён маё і тваё абуджэньне,*
*Ён народу майго Адраджэньне,*
*Фронт, Фронт, Фронт.*

*Там сталініст, там бюракрат –*
*Рабы старых ідэй,*
*Яны рыхтуюць штурматрад –*
*Вандэю ўсіх вандэй.*
*Яны даюць народу бой:*
*Ярлык, дубінка, газ, –*
*І не валодаюць сабой,*
*Пачуўшы нас адказ:*

*Фронт, Фронт, Фронт,*
*Ён маё і тваё абуджэньне,*
*Ён народу майго Адраджэньне.*
*Фронт, Фронт, Фронт.*

*Я цьвёрда веру ў свой народ,*
*Абуджаны ад сну.*
*Вясны адчуўшы надыход,*
*Вітае ён вясну.*
*Якія б беды ні былі,*
*Запомні добра ты:*
*Каб жыць і выжыць на зямлі –*
*У Фронт яднай шыхты!*

*Фронт, Фронт, Фронт,*
*Ён маё і тваё абуджэньне,*
*Ён народу майго Адраджэньне,*
*Фронт, Фронт, Фронт.*

# Напярэдадні:


*Вадзім Лабковіч*


*Аляксей Шыдлоўскі*

❂ Яшчэ **ў канцы жніўня** ў Стоўбцах былі затрыманыя два актывісты "Маладога Фронту": васемнаццацігадовы Аляксей Шыдлоўскі і шаснаццацігадовы Вадзім Лабковіч. Хлопцаў абвінавачваюць у тым, што яны ў ноч з другога на трэцяга жніўня размалявалі стаўбцоўскія асяродкі крамольнымі надпісамі, на асобных будынках разьвесілі нацыянальныя бел-чырвона-белыя сьцягі, на гарвыканкаме быццам бы зьнялі чырвона-зялёны сьцяг і парвалі яго (на даху гарвыканакаму нібыта былі знойдзены ягоныя кавалкі). Аляксей і Вадзім абвінавачваюцца па двух артыкулах: 186-м (зьдзек зь дзяржаўных сімвалаў) і 201-м (злоснае хуліганства). У першы ж дзень затрыманьня Вадзім абвясьціў галадоўку. Каля двух тыдняў іх трымалі ў Стаўбцоўскім СІЗО, а колькі дзён таму перавезьлі ў Жодзіна. Аляксей таксама абвясьціў галадоўку, пасьля таго, як іх перавезьлі туды. Маці Вадзіма дагэтуль не атрымала дазволу на сустрэчу з сынам, ледзьве знайшлі адваката, які будзе абараняць яго. Па словах следчага, зь якім сустракалася маці Вадзіма, ён бы адпусьціў хлопцаў даўно, але зь Менску прыйшоў загад. Трымаць.

❂ **10 верасьня** а 6-й гадзіне раніцы быў падарваны будынак, дзе месьцяцца суды Савецкага ды Менскага раёнаў. Выбух быў моцны, пра што сьведчыць прорва дыямэтрам у паўтары мэтры й выбітыя шыбы ва ўсіх пакоях першага паверху. На шчасьце, у будынку нікога не было, таму ніхто не пацярпеў. Празь нейкі час стала вядома, што адказнасьць за выбух бярэ на сябе "Беларускае Вызвольнае Войска" - тое самае, якое ўжо мае на сваім рахунку выбухі на газапровадах і абстрэл расейскай амбасады. А 21 верасьня ў рэдакцыю "СВАБОДЫ" прыйшоў ліст, у якім яшчэ адна арганізацыя бярэ на сябе адказнасьць за гэтую акцыю. Арганізацыя "Новый порядок" патрабуе неадкладнага вызваленьня Паўла Шарамета з турмы, просіць прабачэньня за позьняе паведамленьне, бо толькі ўчора (20 верасьня) прадстаўнік гэтай арганізацыі выехаў зь Беларусі.



❂ **14 верасьня** ва ўправе БНФ "Адраджэньне" адбылася устаноўчая канфэрэнцыя Беларускага Жаночага Руху "Адраджэньне Айчыны", у якой удзельнічала больш за 50 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў Беларусі. Старшынёй Руху была абраная Тацьцяна Ваніна. Шляхам галасаваньня абраная Управа у складзе 21 чалавека. У пэрспектыве БЖР "Адраджэньне Айчыны" стане структурнай адзінкай БНФ "Адраджэньне".

❂ **15 верасьня** а 10-й гадзіне раніцы быў арыштаваны намесьнік старшыні БНФ "Адраджэньне", адзін з заяўнікаў акцыі 27 ліпеня Юрась Беленькі. Арыштавалі яго ў будынку Савецкага адзьдзяленьня БелПрамБудБанка, куды ён прыехаў па справах разам з жонкай. У памяшканьне ўварваліся некалькі міліцыянтаў і на вачах у прысутных, пагражаючы аўтаматамі, зашчыкнулі на ахвяры кайданы й пасадзілі ў машыну. Яго завезьлі ў Савецкі РАУС, дзе трымалі колькі гадзінаў, але калі даведаліся, што для спадара Беленькага, як для былога дэпутата, дзейнічае імунітэт недатыкальнасьці, адпусьцілі. 19 верасьня міліцыянты заявіліся дахаты да Юрася і сілай адвезьлі спачатку ў РАУС, пасьля ў суд Савецкага раёну, дзе в.а. судзьдзі А. Ганчарык прысудзіў сп.Беленькаму 10 сутак. Юрасю не дазволілі скарыстацца паслугамі свайго адваката, судзьдзя не пажадаў выклікаць сьведак.

**Падрыхтаваў Цімафей Дранчук**

# Жыве Беларусь, асьвечаная Ўсявышнім!

Ізраіля пакараў Бог за тое, што яго сыны "пачалі чыніць, што Госпаду было не даспадобы"; за тое, што "не хацелі стаць чыстымі, не чыніць зло", не хацелі "шукаць праўды", сталі "адступнікамі, багата пераняляі ад народаў усходніх", стаўшы "з сынамі чужаземцаў у пабрацімстве"; за тое, што сталі "неабачлівымі", перасталі быць "цьвёрдымі і разумнымі"; за тое, што народу далёкаму, пасланаму ім як кару Богам, "не мляваму, ня соннаму, нястомнаму" не змаглі супрацьпаставіць такую ж нястомнасьць і цьвёрдасьць.

Ці не падобна гэта на нас?

Кара пасылаецца Богам за тое, што на грэшнай зямлі замест "прадзедаў вялікіх" пануюць "праўнукі паганыя", што далі "сябе ў путы ўзяць". За тое, што "не схамянуўся люд грэшны", "праведна Гасподзь вялікі кайданы павялеў каваць" на род малавераў і недаверкаў, на "род лукавы" і грэшны. Бо навошта яны "чужым багам ахвяры ўсклалі, зьюдзіліся"? Нашто збочылі са шляху бацькоў, нашто сталі здраднікамі, нашто "усялякаму служылі і дагаджалі", як рабы і палахліўцы? Чаму "не саромеліся у хамуце канаць"? Чаму перасталі цьвёрдымі быць, толькі "хіліліся, быццам лаза, куды вецер дзьме"? Нашто сталі людзьмі з "авечай натурай", гатовымі нават бацькоў прадаць за кавалак гнілой каўбасы, гатовымі здрадзіць усяму, чаму пакланяліся бацькі, стаўшы "дзядзькамі айчыны чужой", льючы кроў не за Беларусь, а за яе ката? Нашто згубілі мудрасьць сваю, нашто без пратэсту ходзяць "талерантныя" ў хамуце? Нашто загрузьлі ў граху матар'ялізму, дбаючы толькі аб тым, каб жыта сеяць? Чаму не маюць ужо сьмелага сэрца, арлінага вока і цьвёрдых рук пакутнікаў за праўду, чаму дазволілі разбойнікам і людажэрам асьмяяць Божую славу?



Чаму перасталі сілу Божую ўсхваляць?

Вось за гэта давялося "праўнукам паганым" зноўку хадзіць у хамуце, на чужых працаваць, альбо сьвіней пасьвіць на палёх прадзедаўскай славы.

Зноўку пытаю: ці не пра нас гэта? Крыху падумаўшы, скажу дакладна - пра нас!

Узгадайма гісторыю: пры паляках сваю мову "мужыцкай" лічылі: Прыйшлі маскалі - тое ж самае. Пра Бога ўвогуле няма чаго казаць - бесперапыннае перахрышчваньне з адной веры ў другую, зьнішчэньне храмаў і г.д. Гістарычныя каштоўнасьці таксама выцерабілі: месца Аршанскае бітвы, напрыклад, амаль цалкам забудаванае катэджамі, вытаптанае і засьмечанае, у Курапатах фашысты ўвесь час зьдзекуюцца над памяцьцю ахвяраў, тое ж самае і зь іншымі памятнымі мясьцінамі: А нашыя старажытныя замкі можна пералічыць па пальцах , і не таму, што іх мала продкі пабудавалі, а таму, што не шанавалі і не шануем. У такім стане ўсё нашае, роднае, беларускае.

І гэта народ, які ўзрасьціў Канстанціна Астроскага і Кастуся Каліноўскага, генэрала Балаховіча і гераічных случчакоў, і шмат-шмат іншых герояў. Урэшце, гэты народ узрасьціў дзесяткі тысячаў маладых людзей, сапраўдных герояў менскіх вуліцаў, змагароў з чарговым нашэсьцем брудных пачвараў на родную зямлю.

Зьвяртаюся да аматараў пазмагацца цішком на кухне ("мая хата з краю" ды "абы мяне не чапалі"):

- Чаго вы хочаце? Ці дасьць нам Бог нармалёвае жыцьцё, калі мы самі яго ня хочам мець?!

Адказ на гэтае пытаньне ўсім зразумелы. - Не!

Хто вінаваты? - Мы самі!

Дык што ж рабіць? І на гэтае пытаньне адказ вядомы - змагацца! Паглядзі на свой герб! Там вершнік з аголеным мячом, гатовы ў любы момант ударыць ворага! На нашым сьцягу стужка крыві! Зямля наша, урэшце паліта крывёй продкаў, змагароў за Волю! Прыглядзіся да яе - ці не бачыш, якая яна чырвоная?

Дык не будзь жа сьвінапасам, сын гордых рыцараў! Вазьмі прадзедаўскі меч, і йдзі наперад!

Толькі ад цябе залежыць лёс тваіх дзяцей. Узгадай Бога, пусьці яго да сябе ў сэрца і барані Радзіму, якую даў табе Бог. Тады Ён дасьць яшчэ і добрае жыцьцё тваім дзецям.

Жыве Беларусь, асьвечаная Ўсявышнім!

Жыве вечна!

**Падрыхтаваў Яўген Скочка, намесьнік старшыні Маладога Фронту**

# НАШ ФРОНТ

## 1.Што ж, рушым

Нацыянальна-вызвольны рух БНФ "Адраджэньне" - адзіная сіла ў Беларусі, што рэальна супрацьстаіць дыктатуры й імпэрскім уплывам Расеі. Малады Фронт ёсьць авангардам гэтае сілы - сёньня для моладзі час выйсьці наперад. Для кожнага жыхара краіны паўстаў выбар: або белоруссия с лукашенко або Беларусь з "Адраджэньнем". Большасьць маладых ужо выбрала і стала на наш бок. Стала і стаіць, топчацца, перамінеецца з нагі на нагу...

Наша задача - павесьці іх за сабою. Наша задача - рушыць.

Зразумей, нацыянальна-вызвольны рух - гэта не тусоўка пры паўпадвальных штаб-кватэрах БНФ, не кандыдацкія дысертацыі на тэму "Ахова Правоў Чалавека" і не праймальныя чалабітныя ў ААН. Нацыянальна-вызвольны рух - гэта шырокае, паўсюднае, аграмаднае варушэньне па ўсёй краіне. Нетаропкае, упэўненае і грознае, - яно калі напружыцца, проста ўздыбіць грамадзтва. І моладзь тут - самая рухавая, актыўная, дзёрзкая фракцыя. Малады рух робіць сабе рэкляму на кожнай сьцяне, раздае бясплатныя квіткі на чарговы мітынг кожнаму школьніку, кожнаму студэнту, дэманструе беларускі стыль скрозь, увесьчас і нахабна, усімі зубамі ўсьміхаецца карным страшыдлам ды акупантам.

Юнакоў і дзяўчат, якія падтрымліваюць нас, зараз большасьць. Прычым гэта - найбольш разумныя й дасьведчаныя. У кожным клясе, на кожным інтэрнацкім паверху, у кожным пад'езьдзе ці тусоўцы ёсьць тыя, хто хоча быць разам з намі. Яны прагнуць змаганьня, яны чакаюць, калі ты прыдзеш і возьмеш іх у сваю каманду. Таму твая галоўная задача - рэкляма тваёй суполкі, актыўная дзейнасьць. Улёткі й маладзёвыя весьнікі, дыскатэкі й конкурсы, футбольныя матчы й рызыкоўныя "апэрацыі" - уся гэтая рамантыка будзе нашым выйгрышам. Калі ў цябе, у кожным кутку тваёй тэрыторыі, будзе свой чалавек, здольны ня толькі інфармаваць ці раскідваць па скрынках улёткі, але й дзейнічаць самастойна - гэта нацыянальна-вызвольны рух. Рабі больш творча, ярка, пякуча, больш вычварана - і яны, ашалелыя, перапужаюцца да дна.

## 2.Ты-гаспадар

Твая суполка - агмень беларушчыны ў мясцовасьці. Ты й твае сябры - нешматлікія беларусы на колькі кілямэтраў вакол. Ніхто, апроч вас, не паклапоціцца пра



твой беларускі раён, беларускую вёску ці беларускі двор. Ты павінны адчуць сябе гаспадаром, сапраўдным спадаром на сваёй тэрыторыі. Ты - адказны за Беларусь у сваім навакольлі. Таму трэба весьці гаспадарку - рупліва, грунтоўна, мэтадычна. Зрабі мапу сваёй акругі, пазнач там найважнейшыя аб'екты, маладзёвыя сьцежкі, месцы збору тусовак і небясьпечныя зоны. Зьбірай базу даных па гэтае тэрыторыі, яе архіў, разьмяркуй абавязкі сябраў суполкі па вуліцах ці мікрараёнах. Прыглядвай тыя дахі, на якіх цудоўна выглядае бел-чырвона-белы й тыя, да якіх ніяк не пасуе чырвона-зялёны. Ты павінны ведаць, што і дзе ў тваім раёне ёсьць, а яны павінны ведаць, што гэта - тэрыторыя Маладога Фронту. Завязвай кантакты з дваровымі камандамі, прапануй ім супрацоўніцтва: там ёсьць нашыя хлопцы! Калі-нікалі варта згурбіцца талакой ды прыбраць у сваім двары ці каля сваёй школы - вось табе выдатная сэнсацыя для мясцовае прэсы й папрыкусваныя языкі ў тутэйшых "зялёных".

На тваёй тэрыторыі мусіць быць парадак. Тут павінны атрымоўваць дапамогу ўсе, хто хоча людзьмі звацца.

## 3.Ты-ненармальны беларус

Так, ты для іх - ненармальны беларус. І толькі ад цябе асабіста залежыць, будзеш ты вышэй за "норму" ці ніжэй. Гавары па-беларуску так, каб яны пад цябе падладжваліся. Насі наросхрыст майку з "Пагоняй", урубай на вуліцы магнітафон з "НРМ" на ўвесь гук - і абавязкова ўсьміхайся. Бадзёра й пераможна. Паболей эфэкту й упэўненасьці. Гэта тып. Гэта стыль. Гэта рэкляма. Дыскатэкі, канцэрты, высьвятленьне IQ па-беларуску - усё з выклікам, ярка й шумна. Хай бачаць. Хай ведаюць. Хай зайздросьцяць. І яны вельмі хутка адчуюць - наколькі нудная й "шэрая" іхняя "норма". І самі захочуць быць ненармальнымі.

## 4.Лукамол зачынены. Усе пайшлі на Фронт!

Лукамол будзе пасьпяхова пладзіцца й размнажацца. Не пужайся. Чым большым вырасьце, тым лепш. Тым больш фінансу высмакчуць гэтыя няздары зь непаўнакроўнага рэжыму, тым больш будзе магчымасьцяў для нашых людзей у БПСМ, і, галоўнае, тым больш горача будуць ціснуцца да нас ачмурэлыя школьнікі ды студэнты. У выніку мы атрымоўваем два палюсы: адзін са знакам мінус -, іншы - падвойны плюс, (ён жа - крыж Маладога Фронту). І ты мусіш люляць і пялегаваць лукамол, як пялегуюць вельмі карыснае пудзіла.

Што тычыцьца астатніх маладзёвых асяродкаў, якія незнарок могуць здарыцца ў вашай мясцовасьці, дык раскладка прыкладна такая:

- *Лібералы. Сярод іх шмат адукаваных мажораў-выдатнічкаў. Трапляюцца абаротлівыя ды гаваркія дзяўкі - зь імі сумесна трэба ладзіць канцэрты, дыскатэкі, сэмінары й г.д., але глядзі толькі, як бы не эдцапалі за пальцам і ўсю руку.*
- *Сацыял-дэмакраты. Звычайна ціхмяныя, але захопленыя асобы, часта зь зялёным адценьнем, у пэўных справах цягавітыя. Гарні іх да сябе - сацыялізмам гэтая зямля ўжо па горла сытая.*
- *Анархісты. Хлопцы, шчыра кажучы, разгільдзяі, але ў справе свойскія, кампанейскія ды адчаюгі.*
- *Правыя радыкалы. Ім мала правабаковага руху на дарогах - хочуць прыхапіць яшчэ й ладне ходніка. Калі цябе цягне - забірай управа, але, прашу цябе, ня ўрэжся ў слуп.*

А ўвогуле - ўсе гэтыя хлопчыкі мусяць змагацца з рэжымам і ўсё гэта зараз можна зрабіць толькі праз НАШ ФРОНТ. Калі ты будзеш працаваць, раскручвацца, твой цэнтраімклівы нацыянальна-вызвольны рух сьцягне ўсіх гэтых разнастайных сябраў у Малады Фронт. Бо Адраджэньне на ўсіх адно. І Фронт адзіны. І лукамол для іх зачынены.

**Павал Севярынец, сустаршыня Маладога Фронту**

# Кроніка падзеяў

**26 красавіка** адбыўся "Чарнобыльскі шлях-97" і жалобны мітынг, прымеркаваны да 11-годзьдзя Чарнобыльскай трагедыі. Незадоўга да гэтага ў Менску зьявіліся ўлёткі з заклікамі да ўзброенай барацьбы супроць лукашэнкі і рускамоўнага насельніцтва Беларусі. Яе безыменныя аўтары зрабілі ўсё, каб выставіць Беларускі Народны Фронт у як мага больш горшым сьвятле. На вялікі жаль, з правакацыі пачалося і само шэсьце. Каля інтэрната №2 Палітэхнічнай акадэміі некалькі маладых хлапцоў пачалі кідаць у вокны гэтага будынку бутэлькі і кавалкі жалезьзя. Дружыне БНФ удалося затрымаць некалькіх правакатараў, якія не пасьпелі зьехаць на "Жыгулях". Але не прайшло і хвіліны, як прыбеглі мянты і ўзялі іх пад сваю руплівую ахову, не дазволіўшы журналістам нават сфатаграфаваць іх твары. Як высьветлілася, адзін з правакатараў быў гэбістам, астатнія - супрацоўнікі крымінальнага вышуку. Пазней стала вядома, што ўсе яны былі вызвалены адразу, як мянтоўская машына ад`ехала на бяспечную адлегласьць ад "шляху", без прад`яўленьня якога-небудзь абвінавачваньня. А само шэсьце сабрала больш 40 тысяч чалавек. Неабходна адзначыць, што ў гэты дзень улады не выстаўлялі на вуліцах аніякіх кардонаў, не было відаць нават звычайных мянтоў. На мітынгу, які адбыўся каля Палацу Спорту, выступілі 14 чалавек: пацярпелыя ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, госьці з Украіны й Расеі, вядомыя дзеячы апазыцыі. У адрозьненьне ад мітынгу афіцыйных уладаў, куды ўсіх сьцягнулі па разнарадкаю, ля Палаца Спорту ўсіх аб`ядноўвала боль за лёс нацыі, смутак па ахвярах Чарнобыльскай трагедыі, непакой за будучыню Беларусі.




**1 траўня** фронтаўская моладзь сабралася каля ўваходу ў мэтро плошча Перамогі, дзе таксама зьбіраліся іншыя апазіцыйныя партыі. Кіраваў, адакладней спрабаваў кіраваць шэсьцем Мікола Статкевіч, але атрымоўвалася ў яго не вельмі. Нягледзячы на непрафэсыйнасьць Статкевіча, калёна пад бел-чырвона-белымі сьцягамі дайшла да плошчы незалежнасьці, дзе адбыліся нязначныя сутычкі з "Прамым дзеяньнем". Пастаяўшы колькі хвілінаў на плошчы, калёна павярнулася і рушыла да Палаца Спорту. Калі моладзь пачала крычаць "Пазьняк -прэзідэнт", раззлаваны Статкевіч равеў у мегафон ахрыплым голасам "Жыве Беларусь" і "Горад - наш". У натоўпе яго не падтрымлівалі, з-за чаго ён нават згубіў сваб ружу, з якой горда ішоў наперадзе калёны ўвесь час. Падчас шэсьця былі спаленыя некалькі расейскіх і некалькі чырвона-зялёных сьцягоў, а каля Палаца спорту адбыўся кароткачасовы мітынг.



**14 траўня** БНФ ладзіў мітынг у абарону незалежнасьці, які сабраў на плошчы Якуба Коласа больш за 5 тысячаў чалавек. Па заканчэньні афіцыйнай часткі група радыкальна настроенай моладзі рушыла ў бок плошчы Перамогі. З-за незразумелых дзеяньняў мянтоў рух транспарту на праспэкце быў спынены на самым пачатку шэсьця, хаця моладзь паспрабавала выйсьці на праспэкт толькі адзін раз, на хвіліне пятай шэсьця. З-за млявых паводзінаў астатніх удзельнікаў акцыі, на праспэкце замацавацца не атрымалася, бо акрамя дзесяці маладых людзей, ніхто туды выйсьці не асмеліўся. Усе стаялі на тратуары і вылупляліся на групку мададых, якія гублялі апошнюю надзею застацца на праспэкце. Моладзь здолела дайсьці да Опэрнага тэатру, дзе адбыўся імправізаваны






мітынг агульнай колькасьцю 50 чалавек + 1 выступоўца, які заклікаў да рашучага супрацьдзеяньня дыктатарскаму рэжыму. Затым, невялікімі групамі, моладзь пачала разыходзіцца. Паводле зьвестак БХК, у гэты дзень былі затрыманы 15 удзельнікаў акцыі. Спадарам Анцыповічу і Чахольскаму быў прысуджаны штраф у памеры 150 мінімальных заробкаў, на суткі былі асуджаныя сп. Умрэйка, сп. Бліноў і некаторыя іншыя.



**22,23 траўня** моладзь праводзіла ў Менску так званыя "масавыя гуляньні" у знак пратэсту супроць падпісаньня беларуска-расейскага саюзнага статуту. 22 траўня ўсе ўваходы і выхады на станцыях мэтро "Купалаўская" і "Кастрычніцкая" былі перакрытыя шчыльнымі кардонамі міліцыі. У дварах стаялі аўтобусы ды спецмашыны, напоўненыя "ахоўнікамі парадку" у баявой экіпіроўцы. Менавіта такім чынам улады рыхтуюцца апошнім часам да масавых акцыяў маладых апазыцыянераў. Але, нягледзячы ні на што, маладыя ўсё ж такі сабраліся каля ўваходу ва ўніверсам "Цэнтральны" і на працягу 30 хвілін скандавалі традыцыйныя лёзунгі "Далоў луку!", "Беларусь - у Эўропу, лукашэнку - ...!", "Чемодан, вокзал, россия!". Падчас акцыі былі спаленыя два дзяржаўных сьцяга Расеі, некалькі партрэтаў лукашэнка. Пасьля гэтага ўсе сталі ў калёну і рушылі у напрамку пл.Незалежнасьці.

Але ўжо каля будынка КДЬ іх чакаў кардон са звычайных "ахоўнікаў" парадку. Зь дзесятак мянтоў кінуліся адцясьняць моладзь, калі тыя паспрабавалі выйсьці на праспэкт. Але большасьць маладых спужаліся іх і пачалі разьбягацца, прычым так, што не ведалі куды бегчы. Нарэшце, менты самі дапамаглі, пачаўшы адцясняць іх у двары і браць першых парушальнікаў дэкрэту №5. Моладзь пабегла ў бок кінатэатра "Перамога", дзе шмат хто зь іх былі затрыманыя. Пры "зачыстцы тэрыторыі" былі затрыманыя больш за 20 чалавек. Ужо назаўтра многіх зь іх пакаралі мільённымі штрафамі і суткамі арышту.

Назаўтра, 23 траўня моладзь паводзіла сябе больш асьцярожна і шэсьця па праспэкце не арганізоўвала.



Маладыя апазыцыянеры, пастаяўшы паўгадзіны каля ўваходу ў "Цэнтральны" і абсьвістаўшы лукашэнкаўскі картэж, хутка зьніклі ў падзем ным перахо дзе, пакінуўшы пасьля сябе дагараўшыя на ходніку расейскія сьцягі і партрэты




лукі, як сымбалі акупацыйнага рэжыму. У гэты дзень, паводле зьвестак БХК, былі затрыманыя чацьвёра ўдзельнікаў акцыі. Пасьля таго, як яны зьехалі на мэтро, іх на працягу гадзіны "вадзіў" нейкі гэбіст. Потым ён выклікаў па рацыі "дапамогу", і затрымліваць хлопцаў прыехалі восем машынаў, зь якіх павыбегалі маладыя хлопцы з пасьведчаньнямі КДБ або службы аховы прэзідэнта і, пагражаючы зброяй (у іх у руках былі "сьцечкіны" і "ПМ"), забралі іх у Цэнтральны РАУС.

**А 30 траўня акцыя планавалася, але правалілася на самым пачатку. Каля будынку Нацыянальнага банку РБ сабраліся 50 студэнтаў, якія вырашылі паводзіць сябе спакайней, чым у мінулым годзе. Каля сьцяны паклалі чорны крыж, да якога ўскладаліся кветкі. Міліцыянтам гэтая тусоўка з крыжамі не падабалася, і ўвесь час яны крычалі ў мацюгальнік, што трэба разыходзіцца. Маладыя вырашылі з "ахоўнікамі парадку" не спрачацца, і праз паўгадзіны мірна разыйшліся.**

Падрыхтавала
**Вольга Анцыповіч**

# Вялікая Справа

Беларускае Адраджэньне. Гучыць велічна і прыгожа. Але **апошнім часам зьяўляюцца людзі, якія толькі гавораць пра Адраджэньне, а самі нават некалькіх** словаў не могуць зьвязаць па-беларуску. Адвечнае пытаньне: хто вінаваты? Адказ на яго ёсьць і ён мае шмат бакоў. Адзін з бакоў - палітыка нашага кіраўніцтва і самага чэснага, дарагога і любімага прэзыдэнта, яго рэфэрэндумы і ўсё, што ім спадарожнічае. Я цьвёрда перакананы, Беларусь стане беларускай, калі яе кіраўнікі будуць размаўляць па-беларуску, а над Домам Ураду будзе лунаць беларускі нацыянальны штандар. Сёньня ніхто ў так званым беларускім урадзе па-беларуску не загаворыць. Што ж тады рабіць? Справу: але заўважу, нават тыя, што мусяць рабіць справу часта не ўсьведамляюць сутнасьць гэтае справы. Для таго, каб падказаць "сляпым", як рабіць і што рабіць, прывяду два прыклады, якія сьведчаць, як рабілася справа ў 1993-м годзе і ў 1997-м.

**Год 1993.**
Адзін мой знаёмы вучыўся ў звычайнай савецкай школе. Пачалася беларусізацыя, неўзабаве пачалося выкладаньне курсу гісторыі Беларусі. Вось тады й пачалося: спачатку глыбокая зацікаўленасьць, потым захапленьне, а затым невытлумачальны здаровы фанатызм, выкліканы прачытаньнем кніжкі "Сто пытаньняў і адказаў па гісторыі Беларусі". Праз месяц гэты хлопец чытае "СВАБОДУ", а праз паўгады ўжо вольна шпарыць па-беларуску. А спачатку было Слова... Простае, шчырае, праўдзівае беларускае Слова, нездарма калісьці напісанае, бо без сумневу выхавала не аднаго, а тысячы такіх вось Беларусаў са звычайных савецкіх юнакоў і дзяўчат.

**Год 1997.**
Сяджу я дома ды пью каву. Чую грукат у дзверы. Адчыняю - на парозе мой сусед, учора яшчэ звычайны 12-гадовы дваровы хлапчук, а сёньня - актывіст Таварыства Беларускае Мовы. Праз тыдзень ён са мной ужо спрабуе размаўляць на ламанай беларускай мове. А пачыналася ўсё са Слова, са звычайнага беларускага слова на плякаце актывіста ТБМ у абарону роднае мовы і школы. Вось што я называю Справай. Менавіта т а к а я Справа адродзіць Беларусь.

А зараз колькі словаў пра іншыя "справы" і **СПРАВЫ.**

"Справы"

Ёсьць сярод нашае сьвядомае



моладзі трохі несьвядомыя асобы, якія любяць пахадзіць на мітынгі, як на тусоўкі, памахаць сьцягам(сьвятым сьцягам), як нейкім першамайскім флажком, пакрычаць пра "луку" й яго "хунту", пасядзець у аддзяленьні, а потым сказаць: "Я зрабіў справу !"
Ёсьць і іншыя, якія лічаць справай кінуць камнем у мента ці разьбіць камэру бэтэшніка (хаця бэтэшнік гэтага, безумоўна, заслугоўвае). Але ж гэта не справа. Гэта - хуліганства, і тут мы не лепшыя, за таго самага бэтэшніка ці амапаўца. Трэба йсьці ў наступ, гэта добра, калі прарываеш калёну амапаўцаў і вырываешся на вольны скарынаўскі праспэкт, але дрэнна, калі забываешся на мяжу, якая аддзяляе наступ ад звычайнага хуліганства.

**СПРАВЫ**

Ёсьць сярод пісьменьніцкага "зброду, што верхаводзіць над усімі"(У.Шэкспір, 66 санэт), праслойка, якая мае сваё ўласнае імя: класікі. Душа Народа. Яны адраджалі, адраджаюць і будуць адраджаць Беларусь, але з кожным днём зьяўляюцца авантурысты, якія вырашалі, што Народ - гэта яны(амаль што тое самае, як адзін авантурыст сказаў, што Народ - гэта ён). Такія авантурысты ёсьць і ў нашым "лягеры" - іх трэба нэйтралізоўваць, выпраўляць, тармазіць (называйце, як хочаце), **скіроўваць у рэчышча барацьбы, а не паказухі** (іншага слова я не знаходжу). І ў сувязі з гэтым прапаную:

**ПЕРШАЕ:** стварыць "Фонд падтрымкі беларускае культуры". Адной зь ініцыятываў можа дапамога ў выданьні забароненых кніг беларускіх пісьменьнікаў. Прыкладам Васіля Быкава або Уладзімера Арлова. Гэтую **СПРАВУ** можна назваць **СЛОВАМ**.

**ДРУГОЕ:** стварыць Каардынацыйны Цэнтар па арганізацыі супраціву незаконнаму рэжыму паводле прынцыпу: ня колькасьць, але якасьць. Маю на ўвазе наступную ідэю: лепей праводзіць адну моцную акцыю, колькасьцю 50 тысяч чалавек, а не 20-30 збораў моладзі ня больш за 5 тысяч чалавек, якія пройдуць па праспэкце ды пакрычаць, вынік гэтых акцыяў нулявы, бо розгалас - гэта яшчэ далёка не **СПРАВА**. Моц нашых акцыяў пратэсту (шэсьцяў ды мітынгаў) - гэта тое, чаго рэжым баіцца і паважае і нам трэба гэтыя акалічнасьці заўсёды мець на ўвазе. Гэта мусіць быць **ПРАТЭСТ** зь вялікае літары.

**ТРЭЦЯЕ:** Нам трэба пераарыентавацца са змаганьня супроць лукашэнкі на змаганьне за Беларусь. Лукашэнка мусіць быць для нас ня мэтай, а перашкодай, прамежкавым этапам на шляху да незалежнае Беларусі. Заўважу, што Беларусь дэ-юрэ застаецца дзяржавай незалежнай. Яна залежыць ад дзвюх сілаў: мясцовае вертыкалі на чале з галоўным вертыкальшчыкам і ад расейскага капіталу (мякка кажучы), але не ад Расеі. Расея беларускаму прэзыдэнту не загад (нам гэта яскрава паказалі апошнія падзеі). Усё гэта я назваў бы **ШЛЯХАМ**.

**ВЯЛІКАЯ СПРАВА** будзе тады, калі ўсе сілы, якія стаяць на прынцыпах аднаўленьня Канстытуцыі і Закону, адраджэньня мовы і культуры, пачынаючы ад маладафронтаўца і сканчваючы камуністам, злучацца ў адзіны рух, які пойдзе доўгім **ШЛЯХАМ**, агучаным **ПРАТЭСТАМ** і родным **СЛОВАМ**. Толькі тады мы дойдзем да Беларусі. Але шкодзіць адзінству больш за ўсё заганная практыка змаганьня за рэванш унутры самое апазыцыі. Гэтае змаганьне выклікана амбіцыйнасьцю некаторых лідэраў разнастайных партыяў і груповак, пачынаючы ад Народнага Фронту і завяршаючы лібераламі. Але пра гэта пагаворым наступным разам, а пакуль што...
Жыве Беларусь!
Пакуль што...

***Віктар Мухін***

# КОНКУРС




**Аб`яўляецца конкурс карыкатураў на прызы культурніцкай камісіі “Маладога Фронту”. Лепшыя карыкатуры мы надрукуем у “Маладзёвым весьніку”, а іх аўтары атрымаюць шмат прызоў. Дасылайце свае карыкатуры на адрэсу: вул.Варвашэні, 8, штаб-кватэра БНФ (Цімафею Дранчуку). Таксама мы з задавальненьнем надрукуем ваш артыкул, анэкдот, любы твор у нашым весьніку. Дасылайце!**

## ПРЫВАТНЫЯ АБ`ЯВЫ

Калі ты хочаш набыць НАШ беларускі бел-чырвона-белы сьцяг - заходзь у штаб-кватэру БНФ па адрэсе: вул.Варвашэні, 8 альбо тэлефануй (017) 233-50-12

Ты чуў калі-небудзь пра кампутарную гульню, у якой можна спакойна забіць прэзідэнта краіны і не патрапіць нават пад дэкрэт №5? **Цяпер ты можаш набыць гэтую гульню!** Табе трэба проста даслаць ліст са сваімі каардынатамі на адрэсу: Менск, Варвашэні, 8 (у Маладзёвы весьнік)

Усе, хто жадае набыць відэакасэту з фільмам “Звычайны прэзідэнт” ці аўдыёкасэту з запісам любімых беларускіх гуртоў, дасылайце лісты на адрэсу: г.Менск, праспэкт Ракасоўскага, д.60, корпус 1, кв.299 (Іне Грэбень) альбо тэлефануйце (017) 249-60-67

## УВАГА: ПІКЕТ

**30 верасьня каля Рэспубліканскага палацу культуры з 17-ці да 19-ці гадзінаў Малады Фронт будзе праводзіць пікет у падтрымку палітвязьняў Вадзіма Лабковіча і Аляксея Шыдлоўскага, якія ўжо каля месяца знаходзяцца ў зьняволеньні. Да нядаўняга часу яны знаходзіліся ў Жодзінскім СІЗО, 24 верасьня іх зноў перавезьлі ў Стоўбцы.**

Рэдакцыя просіць прабачэньня ў Юрася Пук`янава за недакладнасьці, дапушчаныя у першым нумары Маладзёвага весьніка.


Маладзёвы весьнік

**Выходзіць з 1997 года**
**Заснавальнік** “Малады фронт”
**Адказны за макет і вёрстку** Цімафей Дранчук
**В.а. рэдактара** Цімафей Дранчук
**Наклад** 199 асобнікаў
**Тэл.\факс для кантактаў** --- 2-33-50-12

*Адказнасьць за матар`ял нясе аўтар*

*Спасылка на “Маладзёвы весьнік” пры перадруку абавязковая*

*Вялікі дзякуй за фотаздымкі газэце “Народная Воля”, газэце “СВАБОДА”, сп. Кармілкіну, сп. Чырыку*